# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт

**Год II.** **Вільня, Пятніца, 21-га ліпеня 1922 г.** **№ 15 (40).**

## „Чорны інтэрнацыянал“.

Тое вялізарнае мора крыві і сьлёзаў людзкіх, што пралілося за час сусьветнае вайны, пралілося не дарэмна: бо ў гэтым моры згінулі найвялікшыя асяродкі рэакцыі ў Эўропе—расейская і нямецкая манархіі.

Троны двох галоўных вінавайцаў крывавае разьні міліёнаў людзей і зьніштажэньня многавяка-вых здабычаў культуры: крывавага Мікалая II і ня менш крываждаднага Вільгельма II — разьбіты ў шчэнт магутнаю хваляю гневу народнага. Але ня згінулі цэлыя арміі тых дармаедаў, што пад зашчытам цароў ад вякоў бяз ніякае працы прывыклі есьці хлеб, здабываны потам народу. І хоць сьпярша здавалася, што справа павароту манархіі ў тых дзяржавах Эўропы, дзе яе зьмяла сусьветная вайна, абсолютна немагчыма,—мы за апошнія два гады бачым цэлы рад спроб адбудовы царызму: і ў Расеі, і ў Вэнгрыі, і, ўрэшце, ў Нямеччыне.

Побач з расейскімі манархістамі, якія разсыпаліся па ўсенькай Эўропе і энэргічна працуюць дзеля падгатоўкі грунту для царскае ўлады ў Расеі, асаблівую энэргію ў гэткім-жа кірунку выяўляюць нямецкія манархісты. Дый для адных і другіх галоўны цэнтр дзейнасьці — Бэрлін. У гэтай кузьні выковываецца новае аружжа, якое мае быць пушчана ў ход, каб зьніштожыць здабытую няволенымі дагэтуль народамі в о л ю.

У Нямеччыне на нашых вачох ідзе вострае змаганьне паміж дэмократыяй і тымі элемэнтамі, якія не перестаюць сьніць залатыя сны аб паваpоце на пасад кайзера Вільгельма. Нямецкія манархісты дайшлі ўжо да таго, што зусім адкрыта пачалі забіваць лепшых байцоў за справу дэмократыі. Ад рукі чорнасоценнае нямецка-расейскае арганізацыі пагіблі ня толькі такія выдатныя соцыялістычныя дзеячы, як Лібкнэхт і Роза Люксэмбург, але і памяркоўныя лібэралы—Набоков, паўшы ад кулі, назначанае Мілюкову, і міністэр заграгранічных справаў Нямеччыны, Ратэнаў. А адначасна па ўсей Нямеччыне, асабліва-ж у Баварыі, ідзе шырокая падгатоўка да аружнага паўстаньня дзеля зьніштажэньня рэспубліканскага ладу і павароту кайзера. І перад нямецкім народам становіцца грозны прывід дзікае рэакцыі...

Углядаючыся на апошнія прыпадкі ў Польшчы: на барацьбу паміж правымі і левымі дэпутатамі ў Сойме за тое, які мае быць у Польшчы ўрад на час выбараў у новы сойм,—мы ня можам лічыць выступленьняў польскае рэакцыі зусім незалежнымі: сама сабой кідаецца ў вочы сувязь паміж узмацаваньнем рэакцыйных імкненьняў у Нямеччыне і ў Польшчы. Істнуе поўная аналёгія паміж становішчам нямецкіх і польскіх рэакцыянераў: і адны і другія дужа добра ведаюць, якія вынікі для іх дзяржаваў будзе мець выступленьне арганізаванага чорнасоценства, незалежна ад таго, хто пераможа. І адны, і другія бачуць, як катастрофальна падае валюта—і польская, і нямецкая. Але і польскім, і нямецкім чорнасоценцам ідзе не аб бацькаўшчыну, а аб тое, каб прытуліцца да ступеняў манаршага трону і пры гэтым пажывіцца коштам народу...

Як бачым, пад той час, як усё больш пачынае пашырацца адвечная ідэя міжнароднай салідарнасьці працоўных масаў, міжнародная рэакцыя пачынае так сама арганізоўвацца і адзіным фронтам выступае на барацьбу з воляй і правам дэмократыі, заваяванымі цаной крыві, пралітае ў часе сусьветнае вайны.

Няхай-жа гэта паслужыць паказчыкам і для дэмократыі; такое аб'яднаньне міжнароднага чорнасоценства вымагае, каб дэмократыя ў гэты мамэнт напружыла ўсе свае сілы дзеля адпору „чорнаму інтэрнацыяналу“.

*М. Малішэўскі.*

## Што чуваць у сьвеці.

### Гаагская канфэрэнцыя.

✦ Французская дэлегацыя заявіла, што дамаганьні саветаў па пытаньню аб прыватнай маемасьці не адпавядаюць франц. поглядам і калі савец. дэлегацыя ня зьменіць сваіх дамаганьняў дык французкая дэлегацыя пакінець канфэрэнцыю.

✦ Савецкія „Извѣстія“ і „Праўда“ разглядаючы бег нарадаў у Гаазе, бачаць непажаданыя вынікі ў канфэрэнцыі. Да гэтых часоў уся канфэрэнцыя вялася на інфармацыях, якія давалі расейскія дэлегаты. Відавочна Расея ня дойдзе да згоды з заходнімі дзяржавамі і змушана будзе сама ўзяцца за адбудову ды шукаць крэдытаў цераз сэпаратныя дагаворы з паасобнымі дзяржавамі.

✦ Расейская дэлегацыя, абмінаючы свае папярэднія заявы, запатрэбавала вясьці перагаворы далей.

### Забастоўка.

У Чыкаго служачыя на чыгунцы аб'явілі забастоўку, якая прымае ўгражаючыя разьмеры. У Нью-Іорку адбываюцца бурлівыя выступленьні. Войскі абараняюць вакзалы. Аб'яўлена мабілізацыя народнай гвардыі. (Pat)

### Французкая вайсковая эскадра ў Лібаве.

13 ліпня у Лібаўскі порт увайшла французкая эскадра. Прыбыцьце эскадры мае сувязь з франко-латвійскім ваенным дагаворам, які будзе зроблены ў гэтым месяцы.

### Латвія, Эстонія і сав. Расея.

„Праўда“ у сваім артыкуле, ахвяраваным балтыцкім дзяржавам запэўняе Латвію і Эстонію ў тым, што выступленьня супроць іх ня будзе з боку Расеі да тых часоў, дакуль трымаецца савецкая ўлада.

### Бойка на эстонска-савецкай граніцы.

На эстонска-расейскай граніцы каля Пскова эстонская варта была абстрэляна праз бальшавікоў. Бойка разгарэлася, навет дайшло да артылерыі. (В. Р.)

### Напад на Мільерана і Пуанкарэ.

Анархіста Буве, які страляў у Мільерана на дазнаньні прызнаўся, што меў на мэце забіць на толькі Мільерана, але і Пуанкарэ. Буве прызнаўся, што прымець на сябе адказнасьць за свой чын.

### Арышты эсэраў.

Савецкая ўлада выдала загад арыштаваць яшчэ 100 эсэраў, абвінавачываючы іх у здрадзе дзяржаве.

### Забойства рэд. „Kur. Poz.“

Пазнань 12 червеня. У сераду а 10 гадзіне раніцы выстралам з рэвальвэру забіты галоўны рэдактар „Kur. Poz.“ д-р Мархлеўскі, які быў старшынёй Саюзу Журналістаў Заходняй Польшчы і лектарам унівэрсытэту.

### Ануляваньне сав. грошаў.

Соўнарком распрацовывае праэкт ануляваньня першага студзеня 1923 г. усіх савецкіх грошаў, выпушчаных да 1922 году. Друк такіх грошаў будзе спынены.

### Усходняя Канфэрэнцыя.

Францыя робіць захады аб склі-каньні канфэрэнцыі у справе Бліскага Ўсходу. Учасьнікамі канфэрэнцыі будуць: Францыя, Англія, Італія, а таксама Грэцыя і Турцыя.

### Чым кончыцца?

Міністэрскі крызіс у Польшчы яшчэ ня кончыўся. Пасьля няўдачы Славінскага стварыць габінэт, правыя Соймавыя групы выставілі кандыдатуру на прэм'ера Корфантага, які і саставіў спісак габінэту. Начальнік Дзяржавы сьпіска не падпісаў.

### Дэзарціры з партыі N. Z. L.

Дэпутаты Камянецкі і Роль выступілі з партыі N. Z. L., бо ня згодны з пазыцыяй партыі датычна кандыдатуры Корфантага.

### Нябывалае надвор'е.

У Альпах выпаў сьнег. Каля Арлеану некалькі разоў былі прымаразкі.

### Бальшавіцкая карта.

Бальшавікамі выдана новая афіцыяльная карта Расіі. Расія называецца: Р. С. Ф. С. Р. і складаецца з 27 асобных аўтаномных адзінак: Маскоўшчына (з Масквой), Карэлія (Петрозаводзк), Зыранія (Уст-Сысольск), Вацяцкая рэсп. (Іжэўск), Марыйская рэсп. (Краснокшайск), Чувашская рэсп. (Чэбоксары), Татарская (Казань), Башкірская (Стэрлі-ташэк), Грузінская (Тыфліс), Калмыцкая рэсп. (Урда), Нямецкі Волжскі Вокруг (Маркештадт), Украіна (Харкаў), Беларуская (Менск), Крымская (Сімферопаль), Кіргізская (Уральск), Абхазская (Сухум Калэ), Чэркаская (Батал Пашынскі), Горская (Владзікаўказ), Дачестанская (Цемір-Хан-Шура), Азайберджан (Баку), Арменія (Эрывань), Далёкавасточная (Чыта), Якуцкі Вокруг (Якуцк), Хівінская рэсп. (Хіва), Бухарская (Бухара), Мангольская (Урга).

## З Нямеччыны.

✦ Крызыс палітычны удалося абмінуць гэткім спосабам: разгляд спорных спраў што да „супольнай працы“ і рэканструкцыі габінэту адложана да восені. Соцыялістычныя часопісі спадзяюцца, што да восені удасца стварыць адналіты фронт пралетар'яту.

✦ Два забойцы Ратэнаў былі паліцыяй дасочаны у замку Сталь. Пакуль паліцыя здалела іх арыштаваць яны кончылі самагубствам.

## З Літвы.

✦ Есьць чуткі, што па праэкту Гальваноўскага, мае быць адчынена міністэрства па жыдоўскім справам. (пат).

✦ Згодна вестак з літоўскіх газэт каапэрацыя у Літве шпарка разьвіваецца. У 1920 г. было 20 народ. банкаў, а у гэтым годзе іх больш за 80, якія лічаць 15 тысяч сяброў.

## З газэт.

### Перасьцярога.

Газэта „Robotnik“, крытыкуючы саставу габінэту Карфантага не прынятага Начальнікам Дзержавы, піша:

Альбо гэта ёсьць апошняя спроба Карфантага і канец прэм'ерскага эпізоду яго авантурыстычнага жыцьця—альбо рэакцыйная хваля хоча далей бурліць і правацыраваць ў абароне ўраду п. Карфантага!

Калі-ж кончыцца гэтае безгалоўе?

Учарайшая варшаўская дэманстрацыя была першай, яшчэ лагоднай перасьцярогай.

✦✦✦✦

✦ Літоўскім дэлегатам пры Радзе Лігі Народаў падпісана дэклярацыя па пытаньню аб нацыянальных меншасьцях у Літве. У дэклярацыі паміж іншым кажыцца: „ня гледзючы на прызнаньне літоўскай мовы дзержаўнай, грамадзянам Літвы, якія гутараць на іншых мовах будзе дадзена магчымасьць ужываць сваю родную мову.

## З Латвіі.

Вышаў у адстаўку ўвесь габінэт Мэеровіча з прычыны адкінутага Соймам бюджэту міністэрства Земляробства. Есьць дагадкі, што стварыць новы габінэт будзе даручана ізноў Мэеровічу.

✦✦✦✦

# Прэтэнсіі да Сьв.-Траецкіх муроў.

Ужо даўно польскай эндэцыі сольлю ў воку стаіць тое, што беларускія культурныя ўстановы знайшлі для сябе прыпынак у адвечным цэнтры беларускае культурнае работы, у сьв.-траецкіх мурох. Ужо не адзін раз эндэкі рабілі спробы заграбіць гэтыя муры і выкінуць адтуль беларускую гімназію, прытулак, навуковае таварыства і беларускі музэй ім. Івана Луцкевіча, а такжа і праваслаўную духоўную сэмінарыю. Але розныя брахлівыя прычэпкі, якія былі пушчаны ў ход, не знайшлі спогаду ані ў генэральнага камісара Асмалоўскага, ані ў Ураду б. „Сярэдняе Літвы“: ні той, ні другі ня згодзіліся пайсьці на яўнае беззаконьне.

Калі ген. Жэлігоўскі выдаў дэкрэт аб тым, што ўсе духоўныя маемасьці, адабраныя ў каталікоў расейскім урадам і аддадзеныя каму-бы то ні было, павінны перайсьці на ўласнасьць дзяржаўнага скарбу, нацыяналістычна настроеныя прадстаўнікі ўлады прабавалі падвясьці пад дэкрэт і сьв.-траецкія муры. Аднак, пасьля апратэставаньня гэтага кроку праваслаўным духавенствам, урад б. „Сярэдняе Літвы“ справу гэту пакінуў. Аўтары дэкрэту самі найлепш разумелі, што гэны дэкрэт тут ня мае вагі.

Запраўды, дэкрэт № 349 гаворыць аб маемасьці, с к о н ф і с к о в а н а й расейскім урадам. Вось-жа, сьв.-траецкія муры ніколі каталіцкімі ня былі, дый ніколі расейскі ўрад іх не канфіскаваў.

Гісторыя гэтых муроў такая. Пляц, на якім стаяць муры, падараваў праваслаўнаму беларускаму насяленьню Вільні Вялікі Князь Алгерд. У 1347-1350 гадох тутака была пабудована праваслаўная царква Сьв. Тройцы, у якой паложаны рэліквіі сьв. Мучанікаў. Пасьля пажару царкву адбудаваў у 1514 годзе князь Астрожскі на памяць аб пабедзе беларуска-літоўскіх войск над маскоўскім войскам пад Оршай. Калі была заведзена царкоўная ўнія, царкву і кляштар занялі ў 1609 годзе ўніяты, якіх падтрымліваў польскі ўрад. Цераз дзьвесьце з лішкам гадоў (у 1839 годзе) уніяты са згоды уніяцкае царкоўнае ўлады з мітрапалітам Сямашкай на чале былі далучаны да праваслаўнае царквы; тады віленская ўніяцкая мэтраполія зьлілася з праваслаўнай, і гэтак Базыльянскі манастыр —бяз ніякае канфіскацыі—зусім аўтаматычна вярнуўся да сваіх даўнейшых валадароў—праваслаўных.

Зусім зразумела, што падвядзеньне пры такіх варунках б. Базыльянскіх муроў пад дэкрэт № 349 зьяўляецца зусім незаконным фактам. Аднак, новая ўлада, якая замяніла сабой урад „Сярэдняе Літвы“, выдаўшы той дэкрэт, растлумачыла яго зусім ня так, як яго тлумачылі самі аўтары. І вось 30 чэрвеня г. г. дэпартамэнт працы, комунікацыі і публічных работ зрабіў-такую процізаконную пастанову аб конфіскацыі сьв.-траецкіх муроў.

З прычыны таго, што адзіным матывам такое бязпраўнасьці зьяўляецца жаданьне выкінуць на вуліцу і гэтак разьбіць галоўныя беларускія культурныя ўстановы,—Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні на сваім пленарным сходзе 1 ліпня пастанавіў падаць мотываваны пратэст проці незаконнае кофіскацыі муроў дэлегату Польскага Ураду, Роману, зьвярнуцца да адпаведных міністэрстваў і Сойму ў Варшаве, а такжа да мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы, Георгія.

Спэцыяльная дэлегацыя падала мэморыял п. Роману, які абяцаўся справу разглядзець, выясьніць пытаньне аб законнасьці канфіскацыі ў найбліжэйшых днях і аб сваей рэзалюцыі паведаміць Камітэт. На жаль дагэтуль няма ад яго ні духу, ні слуху...

Другая дэлегацыя паехала ў Варшаву, дзе асабіста падала пратэст у міністэрствах унутраных спраў, асьветы і рэлігійных вызнаньняў і заграінчных спраў. Копіі пратэсту перададзены былі ўсім соймавым клюбам, пры чым віленскія паслы-дэмакраты абяцаліся энэргічна выступіць у абарону патаптанага права. Урэшце дэлегацыя была ў найасьвяшчэньшага Георгія, каторы вельмі горача прыняў справу да сэрца і абяцаўся ўчыніць з свайго боку ўсё магчымае, каб недапусьціць да захвату ўладай правалаўных муроў.

Вынікі захадаў Камітэту пакуль што невядомы. Грэба думаць, што міністэрскі крызіс адцягне разьвязку справы на нейкі час. Дый калі-б улада пацьвярдзіла незаконную канфіскацыю, дыкжа астаецца яшчэ адна дарога дзеля абароны: гэта—судовы працэс. Будзем спадзявацца, што у польскім судзе-ткі знойдуцца судзьдзі, якія будуць кіравацца не палітыкай, а законам,—а тады судовая пастанова напэўна скасуе незаконныя прэтэнсіі скарбу.

✦✦✦✦

## Пісьмо Патрыарха Тіхана.

Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

З прычыны Вашага ліста ад 14 студзеня г. г. за № 104, маю гонар паведаміць следуючае:

Мэморандум Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі „Аб палажэньні Праваслаўнай царквы ў Беларусі і, галоўным чынам, пад польскай окупацыей“, высланны 27 студзеня мінулага году, у свой час мною атрыманы.

Дзеля асаблівай вагі паднятых у гэтым мэморандуме пытаньняў, ён перададзен быў мною на абмяркаваньне Свяшчэннага Сыноду і Вышэйшай Царкоўнай Рады, складаючых пад маім старшынствам і прадставіцельствуючых увесь біскупат, клір і верных Праваслаўнай Царквы.

Пасьля самых сьцісых абмяркаваньняў, Вышэйшым Царкоўным Упраўленьнем пастаноўлена:

1) пазволіць Найасьвячэншым Беларускіх эпархій ( Літоўскай, Горадзенскай, Менскай, Магілёўскай, Полацкай і др.), у выпадку паступленьня ад большасьці парахвіян прозьбаў аб ужываньні беларускай мовы у так званым дадатковым богаслужэньні, у пропаведзях, катэхізацыі і др., пазваляць у тых храмах карыстацца беларускай мовай.

і 2) прапанаваць Найасьвячэншым тых-жа эпархій приступіць, калі акажацца магчымым, да выданьня на беларускай мове пропаведзяў, богагласьнікаў і Новага Завету.

Што датыча пажаданьня Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі аб замешчаньні біскупскіх катэдраў у Беларусі асобамі, валадаючымі беларускай мовай, то ўцелаісьціць даннае пажаданьне ўжо цяпер не прадстаўляецца магчымым, бо прышлося-бы без павінных прычын зьмесціць некаторых біскупаў, якія, хоць і не валадаюць беларускай мовай, але з пажыткам працуюць дзеля праваслаўнай справы ў Беларусі. Але ў той-жа час, прызнаючы паказанае пажаданьне справядлівым, Вышэйшае Царкоўнае Упраўленьне пастанавіла мець гэтае пажаданьне на ўвазе пры ўсіх пасьледуючых зьмешчэньнях архірэйскіх катэдр у Беларускіх эпархіях.

Павядамленьня вышэйназваным эпархіяльным Найасьвячэншым па вышэйпісаных двох пастановах Вышэйшага Царкоўнага Упраўленьня разасланы былі тады-ж гэтым Найасьвячэншым. Прыгатаваны быў і адказ Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, але, за нестачай аказіі, ўчарод ня мог быць адасланы, а пасьля трапіў ў лік дакумантаў, апечатаных цывільнай уладай у быўшым памешканьні Канцэлярыі Вышэйшага Царкоўнага Упраўленьня.

Прызываю на ўвесь беларускі народ благаслаўленьне Божае і малітвенна жадаю, каб Гасподзь узмацаваў яго сілы ў абароне інтэрасаў роднай для яго Праваслаўнай Царквы.

Прызываю благаслаўленьне Божае і на Вашу працу, і на працу ўсяго Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

Тіхан, Патрыарха Маскоўскі і ўсяе Русі

---

**Ад Рэдакцыі.** Чуткі аб загаду Патрыарха Тіхана беларускім Найасьвячэншым ужываць па магчымасьці беларускую мову былі ужо у лютым м-цы, але мейсцовая эпархіяльная улада на кожнае запытаньне беларусаў адказывала тым, што яна нічога аб гэтым ня ведае. Добра ведама, што Горадзенскі япіскап такі загад атрымаў. Незразумела, чаму не атрымаў Віленскі архіяпіскап?

✦✦✦✦

## Падаткі.

Мы ўжо пісалі (у № 14 (39) аб тых шкодных для Каапэрацыі падатковых парадках, якія руйнуюць каапэрацыю.

Вось яшчэ прыклад, які ілюструе нашыя вывады.

Адзін Каапэратыў у Вільні ў 1921 г. у сваей справаздачы паказывае страты каля 55.000 дзеля таго, што ў працягу году адна з крам была зладзеямі, ўзламаўшымі замкі, абакрадзена на суму каля 95000 м. Гэта кража аднесена на страту; агульны сход справаздачу зацьвердзіў, а ўраднікі Дэлегатуры Скарбовай гэту кражу стратай ня лічаць і выводзюць што таварыства ў 1921 годзе мела зыск (!) 45000 м.

Такім чынам прышоўшы да перакананьня, што таварыства мела не страты, а зыск аблагаюць яго налогам у суме каля 11.000 м.=25% і апрыч гэтага на карысьць Магістрату ад гэтага самага зыску яшчэ 6000 мар., усяго каля 17000 мар., што ужо творыць аж 38% ад выведзенага ўраднікамі зыску!

Аднак гэтага яшчэ мала. Тыя самыя Урадніĸі вышукалі, што таварыства

---

## Покліч.

Гэй, чулыя сэрцам! Гэй душы жывыя!
Ідзеце вы долю шукаць!
Есьць у вас сілы, яшчэ маладыя,
Есьць яшчэ крыльлі лятаць!

Але ўважайце: балотная бросьня
Іх кожную хвілю сачыць,
А гнільлю зацягне, душа не ўваскросне,
Угару над зямлёй не ўзьляціць.

Вы чуеце хваляў жывых набяганьне?
Прыгледзьцеся: новыя дні
На вас пазіраюць у іскрах світаньня
І сьвецяць другія агні.

Сьпяшайцеся, брацьці, расою халоднай
Ваш твар выразьлівы абмыць
І воздух гаючы палёў, нівы роднай
У грудзі чым больш захапіць.

Але памятайце: на вашым сумленьні
Ня сплачаны доўг векавы:
То доўг прад народам, то доўг разуменьня
Якое зачэрпалі вы

З народнага скарбу душы самабытнай
І з скарбу яго мазалёў.
То ён, працаўнік наш, то ён, старажытны,
На гору нас моўчкі ўзьвёў.

Гадуе вас поле, што золатам зьяе...
Пяскоў, нераджайных пяскоў;
Вас корміць сярмяга, што долі ня знае,
Ня ведае ласкі братоў.

Ідзеце-ж к народу, як добрыя дзеці,
Ідзеце. Злучайце яго
І горкую праўду ў вочы скажэце,
Чаго ён гаруе, чаго?

Якуб К о л а с.

11.VI. 1921 г.

✦✦✦✦

## Мэта жыцьця.

Мэта жыцьця, кажуць людзі бяз сілы,
Мэта жыцьця – дачакацца магілы.
Як пражывеш ты, ці чэсне, ці не,
Ці ня ўсё роўна людзём і табе?

Мэта жыцьця, кажуць поўныя сілы,
З доляй змагацца да самай магілы,
Веры ня траціць і страху ня мець,
Сьмела байцамі памерці, згарэць!

Мэта жыцьця, кажуць людзі, ня йрвацца
У неба, а толькі зямлі прыглядацца,
Зьведаць грахі ўсе, усё спрабаваці,
Каб не так сумна было паміраць!

Мэта жыцьця, кажуць, гэта хаваці
Сэрца ад смуткаў і сьлёзаў ня знаці.
Думкі аб праўдзе... гэт, глупства ўсё...
Мэта жыцьця — захаваці жыцьцё!

Н. Арсеньнева.

✦✦✦✦

## АСІЛАК.

Жылі сабе дзед ды баба. Жылі яны ў згодзе: любіліся-кахаліся ўсё жыцьдё. Разам гаравалі, працавалі, разам аддыхалі і былі шчасьлівыя. Толькі ў адным не даў ім Бог уцехі — пражылі ўвесь век і ня мелі дзяцей.

—Хто нам на старасьці вады падасьць? часта гаварыла баба і хвартухом выцірала сьлёзы.

—Ня плач баба— развважаў дзед, — ніхто як Бог, Ен міласьцівы, мо яшчэ і парадуе нас на старасьці.

Баба пакідала плакаць і ціхенька сьмяялася. Бывала яе вочкі блішчаць ад радасьці, дарма, што твар бы ральля ўвесь зморшчыўся. Вядома, чалавек ніколі ня кідае надзеі на шчасьце, бо без надзеі нельга жыць на сьвеце. Часта маладзіцы прасілі бабу, каб яна бабіла ў іх дзяцей. Але ўсё адпірася, вядома, яна баялася, што як родзіцца ў яе дзіця, то яго будуць зваць бабічам, ды насьміхацца.

От раз дзед быў на гумне, а баба завіхалася каля печы; пякла аладкі. Толькі вось клубок агню ускочыў праз вакно дый качаецца па хаці. Спалохалася баба, ня ведае што рабіць. Качаўся-качаўся клубок агню дый падкаціўся бабе пад ногі і стала бабе так добра, што ян аж прысела. Млосьць узяла бабу. Дацяглася яна да полу дый прылягла. Ці доўга, ці мала яна ляжала, толькі вось ачухалася трохі дый дзівіцца, што-б гэта было. Толькі вось зажадалася бабе, як жывое вады, то селядца, то тарана, то воцату. Заганяла яна дзеда, каб ён даставаў ёй усё, чаго яна пражэцца. Пачала баба гаварыць маладзіцам чаго ёй жадаецца, а тыя й кажуць, што гэта на маладое. Пасьміхаюцца маладзіцы з старое бабы, а яна ўсё ня верыць, але потым паверыла баба, што яна чараватая й рада, бы на сьвет нарадзілася.

Але вось і радзіўся ў яе такі гожы хлапчук, што ўсе і надзівіцца ня могуць. Узялі яго бабіць, бачаць аж у яго тры чортавы рабры. Вось быццам абручы так і тырчаць. Пацзівіліся бабы дый кажуць, што мабыць гэта будзе асілак. Вот расьце хлапчук ды сілы набіраецца і скора ён стаў такі дужы, што яго ні адзін самы здаравенны мужчына ня можа пабароць.

Вырас асілак, вабраўся ў сілу і давай ён зьбірацца ў сьвет. Як ня ўпрашывалі дзед з бабаю, каб ён не пакідаў іх на старасьці,—куды там.

— Няма чаго мне тут з вамі сядзець ды курэй заганяць. Я пайду шукаць ворагаў і ці сам загіну, ці ворагаў загублю.

Няма чаго рабіць — прыбралі дзед з бабаю свайго сынка ў вялікую дарогу і з плачам правялі яго за сяло. Тут яны папрашчаліся і вярну-

